Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 200.000 м.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **1.500000 м.**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 300.000 мк., сярод тэксту 250.000 м. і на 4 стр. 200.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 7 (28). Вільня, Нядзеля, 20-га студзеня 1924 г. Год II.

## П. П. П.

За апошнія месяцы нам даводзілася адзначаць на страніцах нашае часопісі цэлы рад праяваў рэакцыйна-манархістычнага руху ў Польшчы. Праявы гэтыя выяўляліся пераважна *у словах* — у газэтных стацьцях, усяляк бэсьціўшых (і зусім бязкарна!) польскую канстытуцыю і найвышэйшую польскую дзяржаўную установу—Сойм. Мы адзначалі такжа мамэнты, якія паказвалі, што рэакцыйны рух у Польшчы памаленьку ад слоў пачынае перахадзіць *да дзела*: зусім адкрыта вялася манархістычная пропаганда ў „рэспубліканскай“ арміі, якая нават прыймала ўчасьце ў касьцельных урачыстасьцях у чэсьць польскіх каралёў. Мы адзначылі, ўрэшце, ў сваім часе факт зьмяшчэньня на першай страніцы „Gaz. Warsz.“, органу панаваўшае тады партыі, „маніфэсту“ нелегальнае фашыстаўскае арганізацыі „Pogotowie Patryotów Polskich“, якая абвяшчала, што бярэцца „завясьці ў Польшчы лад і парадак“. „Маніфэст“ заклікаў усе фашыстаўскія арганізацыі, асабліва вайсковыя, быць напагатове і рыхтавацца да аружнага выступленьня, як прыйдзе час.

Усё гэта было ў часе панаваньня „хіена-пястоўскага“ ўраду. І з таго, што польскія фашысты пачалі вылазіць з свайго падпольля, з таго, што некаторыя сябры ўраду п. Вітаса (Гломбіньскі, Шэптыцкі), як цяпер выясьнілася, падтрымлівалі „П. П. П.“, або назначалі сябраў апошняга на высокія становішчы (камандант фашыстаўскае „паліцыі“ быў назначаны міністрам Кернікам на становішча надкамісара ўрадовае паліцыі ў Варшаве), з таго, што пачалі зьяўляцца „маніфэсты“ і праклямацыі „П. П. П.“.—можна было спадзявацца дзяржаўнага перавароту, які меў на мэце зьнішчыць сілы дэмакратыі і завясьці ў Польшчы манархічны лад.

Неспадзяваны ўпадак „хіена-пястоўскага“ ўраду, які, як бачым, спагадаў фашыстам, разстроіў пляны апошніх. Пры дапамозе паноў Гломбіньскіх і Шэптыцкіх так лёгка можна было зьдзейсьніць лятуценьні польскае рэакцыі,—а тут раптам магутныя пратэктары самі ўтрацілі ўладу....

Аднак, аб пераvароце фашысты хіба што ня кінулі думаць. І хіба-што маладой Польскай Рэспубліцы запраўды пагражала небясьпека з боку фашыстаў: бо ўрад п. Грабскага ўрэшце пастанавіў умяшацца ў гэту справу, і ўначы з 11 на 12 студня ў Варшаве, а сьледам да ёй у Кракаве, Лодзі і другіх местах, дзяржаўная паліцыя арыштавала пару дзесяткаў галоўных дзеячоў „П. П. П.“. Пры вобысках былі знойдзены дужа цікавыя дакумэнты, кампрамітуючыя б. міністраў Гломбіньскага, ген. Шэптыцкага і Керніка, а такжа дужа падробныя „рапарты“ аб стане і лічэбнасьці польскага войска ў розных местах, аб складах амуніцыі і т. п. Аказаўся „накрытым“ фашыстаўскі „генаральны штаб“, які павінен быў кіраваць выступленьнем дзеля захопленьня ўлады. Выкрылася істнаваньне фашыстаўскае „паліцыі“, камэндантам якое быў... надкамісар урадовае паліцыі Гостыньскі! Выявілася такжа ўчасьце ў дзейнасьці „П. П. П.“ польскіх каталіцкіх ксяндзоў і манахаў-капуцынаў, якія ў сваіх касьцёлах прыводзілі да прысягі сябраў „П. П. П.“....

Як вынікі арыштаў і вобыскаў, так і самы факт выступленьня ўлады паказвае на *блізкасьць выступленьня фашыстаў*: усім вядома, што ўрад п. Грабскага зьяўляецца бязумоўна „правіцовым“, і калі ён не сьцярпеў работы „П. П. П.“, дык, трэба думаць, затым, што дзяржаўны пераварот ці хоць-бы спроба яго ў мамэнт „санацыі“ польскага скарбу аканчальна зруйнаваў-бы польскія фінансы. *Фінансіст* Грабскі ня мог дапусьціць да гэтага.

Але тым больш цікава, як аднясецца да гэтае справы *прэм'ер* Грабскі. Факт падгатоўкі перавароту—ачывісты. Ачывіста такжа, што зрабіць яго маглі-бы ня тыя 3.000 сябраў „П. П. П.“, якія знаходзяцца ў Варшаве: у мамэнт выступленьня „П. П. П.“ да перавароту напэўна далучыліся-бы і тыя *укрытыя* фашысты, тыя *ідэйныя павадыры „П. П. П.“*, якія ўваходзяць у „правіцовыя“ партыі наагул і ў сваіх часопісях увесь час падгатаўлялі грунт да перавароту, бэсьцючы канстытуцыю, рэспубліканскі лад, сойм, паслоў і т. д. Сьледзтва ў справе „П. П. П.“ павінна-б было сягнуць далей і глыбей, чым „генаральны штаб“ арганізацыі: яно павінна выкрыць крыніцу, з якое выйшаў і гэны „штаб“, і самая арганізацыя „П. П. П.“.

Вось, тут *прэм'ер* Грабскі і павінен будзе выявіць сваё запраўднае аблічча: бо ліквідацыя „П. П. П.“, ачыстка адміністрацыі і войска ад *яўных* сяброў арганізацыі — гэта толькі *залечываньне хваробы на мамэнт*, а не радыкальнае зьнішчэньне *прычыны яе*. Апошняе-ж магчыма будзе толькі тады, калі дзяржаўная ўлада ў Польшчы абапрэцца не на буржуазію, а на працоўныя масы, калі ня будзе аглядацца на падтрыманьне тых кругоў, якія заместа аднаго „чорнага штабу“ створаць зараз дзесяць новых...

Такога „гэраізму“ мы ад ураду п. Грабскага не спадзяемся. Не спадзяемся ніякіх рашучых крокаў і з боку соймавае „лявіцы“. І ўся справа „П. П. П.“ хутчэй за ўсё скончыцца ў мысьль польскае народнае прыказкі: „z wielkiej chmury mały deszcz“.

## Справа ўсходніх граніц Польскай Рэспублікі.

(*Гістарычны агляд*).

Пакуль Польшча асягнула свае цяперашнія граніцы, прайшло ня мала часу. Польшча ня была задаволена ўхваламі Вэрсальскага трактату, галоўным чынам адносна да яе ўсходніх граніц, вызначаных згодна з этнаграфічным разсяленьнем палякоў. На іншых пагранічча—з Чэхамі, Немцамі, Усходнімі Прусамі і Літвою таксама павінны былі адбыцца або плебісцыты, або палюбоўныя згоды ў спорных тэрыторыяльных пытаньнях.

І вось, для нас цікава цяпер прасачыць, якімі шляхамі йшла гісторыя здабываньня Польшчаю яе сучасных граніц на Усходзе.

Незадаволеная галоўным чынам тым, што на Ўсходзе Польшчы Вэрсальскі трактат правёў так званую лінію Кэрзона, г. ё. ад Бярэсьця да Беластоку (больш-менш), Польшча самавольна перайшла гэтую граніцу і, дзякуючы хаосу ў Расеі, лёгка заняла ўсю Горадзеншчыну, Віленшчыну, частку Меншчыны, Палесьсе, Валынь, частку Кіеўшчыны і Падоля. Гэта было ў працягу 1919 году і ў пачатку 1920 г.

Найвышэйшая Рада саюзных дзяржаў Антанты 8 сьнежня 1919 г. паўзяла першую ўхвалу ў справе ўсходніх граніц Польшчы. У гэтай ухвале саюзьнікі прызналі *„права польскага ўраду арганізаваць праўдзівую адміністрацыю на землях былое Расейскае Імпэрыі, паложанных на ўсход ад лініі Бугу і Нёмана (пад Горадням)“*.

Пастанова гэта, зробленая ў той мамэнт, калі польскія войскі ўжо з паўгоду былі далёка за Вільняй, адчыніла даўгую, аж тры з паловаю гады цягнуўшуюся, гісторыю дыплёматычных актаў па пытаньню аб усходніх граніцах.

6-га сакавіка 1920 г. польскі ўрад атрымаў ноту, у якой было зазначана, што Найвышэйшая Рада ня прызнае выбараў, якія-б Польшча захацела правесьці на землях, паложаных на ўсход ад лініі, устаноўленай ухвалай 8 сьнежня 1919 г.

11 ліпеня 1920 г., на канфэрэнцыі ў Спа быў падпісаны пратакол, які прапанаваў Польшчы заключыць мір з Радавай Расеяй, пры гэтым граніцай паміж Польшчай і Радавымі Рэспублікамі вызначалася так званая „Лінія Кэрзона“.

10 жніўня 1920 г. падпісаны быў трактат у Sèvres, які выдзяліў з земляў, прызнаных Польшчы, Усходнюю Галіччыну.

12 кастрычніка 1920 г. ангельскі і францускі паслы ў Варшаве злажылі польскаму ураду аднолькавыя ноты, сьцьвярджаючыя канечнасьць астаўленьня Вільні Ковенскай Літве.

А яшчэ раней таго,—18 верасьня 1920 г. Рада Лігі Народаў забараніла польскім войскам, якія йшлі з пад Варшавы на ўсход, займаць землі, абсаджаныя літоўцамі, г. ё. ўсю Сувальшчыну і часткі Горадзеншчыны і Віленшчыны.

Польшча не падпарадкавалася гэтым апошнім вымаганьням Эўропы і прадаўжала праводзіць на Ўсходзе сваю ўласную палітыку, якая і закончылася вядомым Рыжскім мірам паміж Польшчай — з аднага боку і Расеяй, Беларусьсю і Украінай — з другога, падпісаным у Рызе 12 кастрычніка 1920 г. і ратыфікованым 18 сакавіка 1921 г,

Пасьля гэтага прайшло два гады і так званая канфэрэнцыя амбасадораў 15 сакавіка 1923 г. прызнала цяперашнія граніцы Польшчы з Літвою, Расеяй, Беларусьсю і Украінай.

Зусім ня трудна заўважыць, што апошняя пастанова пярэчыць ранейшым самым катэгорычным спосабам, г. ё. прызнае за Польшчай фактычна занятыя ёю землі, этнаграфічна няпольскія.

У той час, як усе пастановы Эўропы адносна да ўсходніх граніц Польшчы выклікаліся пракананьнем Эўропы аб патрэбнасьці для Польшчы земляў з вельмі ніклым процантам палякоў, апошняя ўхвала амбасадораў адразу анулявала ўсе старыя пастановы і прызнала так званы „даконаны факт“.

Да ўсяго гэтага, аднак, трэба дадаць, што канфэрэнцыя амбасадораў, прызнаўшы Польшчы яе сучасныя граніцы на ўсходзе, *адмовілася іх гварантаваць*.

Як мы бачымо, Польшча прайшла даўгі і цяжкі пэрыяд змаганьня за свае ўсходнія граніцы і гэта ў значнай меры падарвала яе сілы і перашкаджала галоўным чынам яе эканамічнаму дабрабыту. І, быць можа, слушна думае, праўда, нязначная частка польскага грамадзянства, якая кажа, што так званыя ўсходнія крэсы, г. ё., тэрыторыі заселеныя беларусамі і украінцамі, толькі абцяжаюць жыцьцё Польшчы, а з прычыны неразумнай „крэсовай“ палітыкі Польшчы да гэтых народаў, зьявяцца ў крытычны для Польшчы мамэнт галоўным фактарам яе катастрофы.

Відаць, што і Эўропа, праз доўгі час адмаўляўшая Польшчы ў прызнаньні ёй тэрыторый па-за лініяй Кэрзона, таксама кіравалася падобнымі поглядамі.

Асобная камісія мірнай канфэрэнцыі ў Вэрсалі, якая апрацоўвала праект ухвалы ад 8 сьнежня 1919 г., узяла за пункт выхаду дэкрэт расейскага часовага ўраду ў сакавіку 1917 году аб прызнаньні права незалежнасьці для зямель, этнаграфічна польскіх. Гэтая-ж камісія хацела паддаць Усходнюю Галіччыну плебісцыту, які праз 25 гадоў вырашыць, ці Галіччына будзе належаць да Польшчы, ці да Расеі.

Лейд-Джордж, дамініруючая роля якога ў сусьветнай палітыцы ўсім ведама, ахвяраваў Польшчы ў

ліпені 1920 г. лінію Кэрзона, хочучы згоды з Вялікай Расеяй, хоць-бы і Савецкай.

Старшыня асобнай камісіі мірнай канфэрэнцыі думаў, што для зьліквідаваньня польска-літоўскага спору трэба Вільню аддаць Літве, каб яна потым без перашкодаў перайшла да Расеі.

Рыжскі трактат быў апратэстованы расейскай эміграцыяй.

У канцы канцоў, яшчэ цяперашняй зімою гаварылася ў Парыжы аб канечнасьці часовай аддачы Клайпэды Ковенскай Літве, маючы пры гэтым на ўвазе зарэзэрваваньне Клайпэды для Расеі.

Безварункова, што ў справе ўсходніх граніц Польшчы, яе дыплёматыя ўсюды і заўсёды спатыкалася як з адпорам прадстаўнікоў старой Расеі, у вялікім ліку сабраўшыхся ў Парыжы і іншых эўропэйскіх цэнтрах, так і з тым духам прыхільнасьці да „саюзнай“ Расеі, які царыў у дыплёматычных канцэлярыях Францыіі і інш. дзяржаў, у якіх спадзяваліся на блізкі прыход „настаяшчай“ Расеі.

Аднак „настаяшчая“ Расея—„трэйцяя“, як яе яшчэ называлі, ня прыходзіла і ня прыходзіла. Саветаў Эўропа не хацела прызнаць. Толькі адзін Лёйд-Джордж падняў было пытаньне аб міры з Масквой, але яно так і асталося ў той час вісячым у паветры.

Тады Польшча, пад час урадаваньня ген. Сікорскага выступіла перад Эўропай з паноўным дамаганьнем прызнаньня яе ўсходніх граніц з Літвой, Расеяй, Беларусьсю і Украінай, матывуючы свае дамаганьні тым, што пастаяннае адкладаньне аканчальнага залатвеньня спраў Польшчы, спадзяючыся на якія-небудзь новыя концэпцыі і перамены, абаперта на не рэальных фактах і зьяўляецца недапушчальным, так як Польшча сама, без саюзу з Расеяй, можа і хоча быць падставай міру і раўнавагі, калі граніцы яе будуць безадкладна прызнаны.

Канфэрэнцыя амбасадораў прыхілілася на гэты раз да пастулятаў польскай дыплёматыі і прызнала ёй заваёваныя вялізарныя абшары на ўсход ад лініі Кэрзона.

Але, што-б гэта значылі словы — „без гварантыяў?“.

Ці ня значыць гэта, што калі-б Эўропа ўвайшла ў нармальныя адносіны з Расеяй, і нават ня з „трэцяй“, не з „настаяшчай“, а з сучаснай, г. ё. з Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік, то што-ж, тады-б усходнія граніцы Польшчы асталіся-б „без гварантыяў?“.

Відаць, што так.

Трудна, разумеецца, згадаць, як і што будзе. Але ёсьць ужо досыць моцныя азнакі таго, што Эўропа, не дачакаўшаяся „настаяшчай“ Расеі, прызнае Саюз Радавых Рэспублік. Ад гэтага факту могуць выцячы пасьледствы і аб этнаграфічна няпольскіх землях...

**Вэнус.**

# У санаторыі д-ра Шахта.

**Ад рэдакцыі:** Друкуючы гэты артыкул нашага супрацоуніка, які зусім слушна падкрэсьлівае арганізацыйныя здольнасьці нямецкая буржуазіі у справе направы фінансавай гаспадаркі, чым ня можа пахваліцца наша польская буржуазія,—мы лічым патрэбным зазначыць, што і у Нямеччыне гэтая „направа скарбу“ адбываецца бадай выключна коштам працоунага народу, шляхам павялічанага вызыску яго. Скасаваньне 8 гадз. дня працы, пры мільенах безработных, зьяуляецца найбольш яскравай ілюстрацыяй гэтага вызыску. У той час, калі пераход да паунацэннай валюты, прычыніуся да краху дробнай прамысловасьці і гандлю, а вялікая прамысловасьць, асабліва т. зв. цяжкая, наадварот, яшчэ больш узмацоуваюцца, і карыстаючы з труднага палажэньня дзяржавы, робяць „залаты інтэрас“, за бясцэнак скупоуваючы нават дзяржауныя прадпрыемствы.

Нас усіх у Польшчы чакае такое яшчэ больш цяжкае пахмельле, такое сумнае працьвярожаньне пасьля баечнага самапачуцьця, атручанага „салодкім ядам“ паперавых грошаў,—што ня можа ня збудзіць найвялікшай цікавасьці тое,—як гэты страшэнна цяжкі перыяд лячэньня фатальна запушчанай хваробы праходзіць у другіх краёх, а перадусім — у Нямеччыне, якая варожымі сіламі фінансава зруйнавана яшчэ больш нават, як Польшча,—сваімі ўласнымі і „прыяцельскімі“... Тым болей, што Нямеччына заўсёды славілася сваім клясычным фінансавым мастацтвам і наагул—сваей гаспадаркай—і гаспадарствена-арганізацыйным гэніем.

Дзеля таго пабачым, што і як рабілася і робіцца ў той „фінансавай санаторыі“, у якую пасадзіў Нямеччыну яе „валютны дыктатар“ п. ШАХТ.

---

Амэрыканскі даляр каштаваў у Нямеччыне ўжо *4, 2 більёны* марак, калі п. Шахту, удалося затрымаць і стабілізаваць апошнюю на гэтай роўні.

Да гэтага часу папяровая паводка зусім затапіла край. 140 вялікіх друкарняў дзень і ноч друкавалі маркі. Каля 80 розных гатункаў грошаў курсавала ў краі, прыпамінаючы тыя часы, калі пасьля 30-ці гадовай вайны у той-жа Нямеччыне было іх аж да 5.000!.. Кожны магістрат, кожнае вялікае прадпрыемства друкавала сваі боны... Марка спадала ня толькі штодня, але літэральна, што гадзіну. Купцы і вытворцы не хацелі прыймаць гэтых марэк... Кожны сьпяшыў, як найхутчэй пазбыцца іх, купляючы ўсё, што толькі мае нейкую вартасьць, ад гэтага марка толькі йшчэ хутчэй ляцела ўніз. Гандляры пачалі ня толькі вызначаць цэны, пералічаныя на золата, але да таго йшчэ дадаваць добрую частку, паводле ўласнага рахунку, каб забясьпечыць сябе напярод ад далейшага спадку маркі... Дарагоўля расла зусім фантастычна.

Патрэба ў сталай валюце была такой моцнай і палючай, што само грамадзянства перайшло, як у нас, на даляр і ўраду нарэшце прыйшлося толькі санкцыянаваць гэта, выпусьціўшы перш г. зв. „даляравую пазыку“, забясьпечаную падаткам ад маемасьцяў, — у частках даляра. Як і ў нас, перш была ўведзена валёрызацыя падаткаў і збораў і адкінута валёрызацыя платы за працу. Работнікам плацілі пустымі паперкамі, а з іх бралі за ўсё—падаткі і за тавары па курсу золата. Пачаліся, як і ў Польшчы паўсюду галодныя разрухі, забастоўкі, бунты, якія ўрад душыў з нячуванаю зьверскасьцю... Нарэшце сьпярша абшарнікі, а пасьля ўсё сялянства-хлеларобы—адмовіліся зусім прыймаць за хлеб маркі. І тады ўрад хутка апрацаваў і выпусьціў г. зв. „рэнтавую марку“. Гэтая, аблічаная ў даваенным залатым курсе, марка выпушчана асобным банкам, зусім незалежным ад ураду, і забясьпечывалася першымі закладнымі (гіпатэкай) на вялікія прыватныя нярухомасьці, якія ўрад напалову прымусам, напалову па згодзе атрымаў ад абшарнікаў і прамыслоўцаў. На гэтай марцы стаяць подпісы 18 асобаў, галоўных сябраў банку, якія маюць фінансавае даверые, як у краі, таксама і за граніцай.

У гэтую марку адразу паверыла ўсё грамадзянства, а таксама і заграніцай, і гэтым задача была вырашана. Рэнтавая марка зроблена роўнай аднаму більёну папяровых марак. Але-ж зразумела, што на гэтым справа не канчаецца. Перадусім гэтая марка—толькі *пераходная* да запраўднае залатое валюты, якую ўрад маніцца стварыць, пры дапамозе заграцічнай пазыкі, ўжо абяцанай, —толькі, можа пад вясну, калі маюць надзею больш-менш зраўнаважыць буджэт, у якім цяпер толькі *паўпрацэнта*, г. зн. $^{1}/_{200}$ частка расходаў пакрываецца падаткамі...

І вось цяпер і пачынаецца самы цяжкі пэрыяд „лячэньня“...—Бо трэба, *ня руйнуючы новай маркі*, давясьці буджэт да раўнавагі, спаганяючы падаткі, зьмяншэньнем усіх выдаткаў, пэнсіяў,—наагул *скурчэньнем* ўсяго жыцьця, і—страшэннай, паўгалоднай *працай*...

Як толькі была ўведзена новая марка, а разам былі зачынены друкарні, дык паўсюду распачаўся *страшэнны крызіс*. Новых марак было кінута зашмат *мала*, і зрабіўся вялікі недахват грошаў. Амаль ня ўвесь гандаль спыніўся. Адзін за другім пачалі лопацца нават багатыя, салідныя фірмы. Цэны на прадметы неабходнае патрэбы ўпалі, але, дзеля няхваткі грошаў нестасоўна да цаны гэтай маркі: *рэальная дарагоўля йшчэ ўзрасла*... Але пакупная сіла зусім згалеўшага грамадзянства, пры ўвядзеньні новай валюты ўпала йшчэ ніжэй, дзеля таго, што страшэнна павялічыўся лік безработных, а таксама панізіліся платы працаўнікоў і г. д... Гэта дзеля таго, што, як толькі пачалі ўсю гэтую баечную фантастыку астранамічных лічбаў марак перакладаць на мову „залатое праўды“, дык уся ўбогасьць грамадзянства высьветлілася да канца!.. Платы працаўнікам былі менш як *напалову* (у сярэднім—$^{5}/_{12}$) даваенных; але кошты ўтрыманьня ўзрасьлі ў 3—4 разы!! Але і гэтага пачалі пазбаўляць людзей: дзесяткамі тысячаў пачалі выкідаць працаўнікоў на вуліцу. У адным бэрлінскім банку выкінулі аднаго дня 1.500!..

Але, ня гледзячы на ўсё гэта, адразу, як толькі ўвялі новую сталую валюту, усе пачулі *вялікае аблягчэньне*. Пачулі ўсе, што сталі на цьвёрды грунт, па якому можна ўжо ісьці да запраўднага і сталага паляпшэньня... Ня толькі марка, але й зусім ужо было пахаваны „фэніг“ вярнуў сабе колішнюю вартасьць і пабудзіў да сябе пашану... Вельмі цікава і тое, што адразу бяз усякага банкруцтва усе працэнтныя паперы, акцыі, пазыкі і г. д. страцілі зусім сваю даходнасьць: атрымаць грошы па іх купонам, ці дэвідэнты ў банку цяпер каштуе даражэй, як самы гэты даход... Няма што казаць ўжо аб прадпрыемствах спэкуляцыйных, якія палопаліся адно па адным, як порхаўкі. Вялізарная армія спэкулянтаў адразу страціла ўсе сваі заработкі... Адразу памёрлі чорныя біржы і „дзікія“ банкі... На вялікай Біржы запанавала цішыня...

П. Шахт, ня так, як п. Грабскі, адразу *закрыў крэдыты* прамыслоўцам, якія дамагаліся іх дзеля пашырэньня вырабу—на вываз заграніцу. Ён кажа, што трэба наадварот—*абмежаваць* вытворчасьць і вырабляць *толькі на ўнутраны рынак, і толькі танны тавар*, які можа купляць краёвы спажывец.

Ён кажа, што, калі цэны ў Нямеччыне (як ужо і ў Польшы) вышэй ад сусьветных, дык канкураваць з заграніцай можна толькі паніжаючы цэны на вырабы вывазу,, робячы гэтым сабе ворагаў у тых краёх, дзе пануе безрабоцьце... І вось—прадаваць даражэй у *сваім* краі, каб аддаваць таней тое самае заграніцай *чужым* (як гэта заўсёды робяць нашыя хьенскія прамыслоўцы), гэтае п. Шахт забараніў рашуча...

Вось як хутка варочаецца да рэальнасьці цьвярозы, працавіты, умеючы глядзець праўдзе ў вочы немец...

**В.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

У соймавым буфэце паслы-людоўцы Брыль і Відота далі адзін аднаму па тварьі... А да таго п. Брыль яшчэ кінуў у бышага калегу па партыі крэслам.

---

З прычыны валёрызацыі падаткаў доўг Дзяржаўнага Скарбу ў Пазычковай Касе праз першыя 10 дзён студзеня паменшыўся з 111 трыльёнаў на 105.

---

Клюб партыі „Вызволене“ пастанавіў дамагацца павароту Яз. Пілсудскага на становішча шэфа Генар. Штабу і старшыні Малой Ваеннай Рады, што, як мы ўжо ведаем, адкінуў як прэзыдэнт Вайцехоўскі, таксама і прэм'ер Грабскі.

---

Галоўны памоцнік выехаўшага да дому фінансавага дарадчыка Польшчы п. Х. Юнга п. Ніксон таксама выехаў з Польшчы да Англіі. Спадзявацца, што яны вернуцца разам да Варшавы.

---

Палажэньне ў Лодзі ў зьвязку з крызісам ў прамысловасьці і зачыненьнем вялікшай часткі фабрыкаў, вельмі паважнае. Канфэрэнцыя ўсіх профсаюзаў пастанавіла абвясьціць агульную забастоўку.

---

Ад 15-га гэтага месяца ўвайшоў у сілу закон аб вынятковых паўнамоцтвах Прэзыдэнта Рэспублікі і ўраду для лячэньня скарбу.

---

Далейшае сьледства ў справе арыштаў фашыстаўскага „Pogotowia Patrjotów Polskich“ выкрыла ўчасьце ў арганізацыі чарады ксяндзоў, якіх урад забараняе арыштовываць без дазволу іх духоўнай улады (?).

---

Вобыскі і арышты сярод сябраў фашыстаўскай арганізацыі П.П.П. прадаўжаюцца ў шмат

# Дзьве разьвязкі зямельнага пытаньня.

Кожная форма грамадзкае гаспадаркі сама сябе апраўдывае з пункту гледжаньня інтарэсаў пануючае клясы. Гэта—старая, як грамадзкае жыцьцё, праўда. Бо, калі істнуючая гаспадарчая форма гэным інтарэсам пануючае клясы не адпавядае,—яе зусім сьвядома зьмяняюць у такім кірунку, каб давала больш карысьці. І робіцца гэта як тады, калі аджыўшая ўжо свой век гаспадарчая форма перастала здаваляць інтарэсы *старое* пануючае клясы,—так і тады, калі пануючае палажэньне заняла *новая кляса*.

Яшчэ больш рэзкія перамены ў гаспадарчых формах адбываюцца тады, калі яны не здаваляюць інтарэсаў ні старое, ні новае пануючае клясы. І няма такое сілы, якая ў такім прыпадку здолела захаваць тое, што зрабілася ўжо шкодным і нікому непатрэбным перажыткам.

Гэтыя думкі ўсплываюць самі сабой, калі пачнеш больш уважна прыглядацца да палажэньня зямельнае справы як у Заходняй Беларусі, так і ўва ўсей Польшчы. Але перш, чым гаварыць аб ёй, трэба адзначыць адну рысу грамадзкага жыцьця Польшчы наагул.

Лічыцца Польшча „дэмакратычнай рэспублікай“. Што гэта значыць? А значыць тое, што да ўлады *фармальна* дапушчаны тутака ўсе клясы, ўсе станы, ўсе групы грамадзянства. Ведама, ад мамэнту такога фармальнага дапушчэньня да фактычнага пераходу ўлады ў рукі працоўных работніцка-сялянскіх масаў—вельмі далёка. І Польшча якраз перажывае пэрыяд барацьбы гэтых працоўных масаў, якія зьяўляюцца *большасьцяй* насяленьня, з польскай буржуазіяй, якая, прадстаўляючы *меншасьць*, фактычна пануе над большасьцяй.

Вось, на фоне барацьбы за ўладу (ці хоць-бы за адпаведнае ўчасьце ў ёй), што адбываецца паміж старымі панамі палажэньня — буржуазіяй — і новымі кандыдатамі на пануючае палажэньне — працоўнымі масамі, трэба разглядаць і пытаньне аб зямлі, пытаньне аб формах і ўладаньня ёю, і гаспадаркі на ёй. Да гэтага прымушае ўжо самы той факт, што разьвязка зямельнага пытаньня законадаўчай дарогай залежыць ад таго, якая кляса будзе мець перавагу ў законадаўчых установах гаспадарства.

Фактычна, разьвязаць у нас зямельнае пытаньне—гэта значыць *або зьліквідаваць абшарніцкую ўласнасьць* і разам з гэтым тую вялікую прыватную зямельную гаспадарку, аддаўшы зямлю ў рукі працуючых на ёй сялян-хлебаробаў малазямельных і безьзямельных, *або даць абшарніцтву* і тыпу вялікае прыватнае гаспадаркі *дзяржаўнае падтрыманьне*. Можна з поўным пераканаsuccesньнем сказаць, што польская дзяржаўная палітыка дагэтуль ішла і йдзе па апошняй дарозе: даволі прыпомніць сумны лёс ухваленай установчым соймам зямельнай рэформы, якой дагэтуль ніводзін урад не памыкаўся нават правясьці ў жыцьцё...

Дый істнуе цэлы рад позытыўных даных аб тым, што польскае абшарніцтва дзержыцца якраз на дзяржаўным падтрыманьні. Больш таго: яно можа істнаваць бадай толькі выключна пры такім падтрыманьні.

Абшарнікі, бароньчы сваю ўласнасьць, звычайна выстаўляюць, як галоўны аргумэнт, тое, што яны зьяўляюцца галоўнымі прадуцэнтамі хлеба і даюць гэты хлеб на мястовыя рынкі. „Мы кормім месты, мы кормім работнікаў!“—кажуць яны.—Але гэта толькі *фармальная* праўда: бо ў Польшчы фактычна не абшарнікі, а сама дзяржава забясьпечывае даставу хлеба местам, даючы паном вялізарныя сумы грошы на вядзеньне гаспадаркі ў пастаці такзваных „zaliczek“. *У панскіх дварох працуюць не паны, а дзяржаўны, ці народны капітал*, без якога абшарнікі не маглі-бы весьці гаспадаркі. І ўжо гэты факт найлепей сьведчыць аб тым, што вялікая ўласнасьць у Польшчы банкрутуе, што яна зьяўляецца толькі спосабам кармленьня земляўласьнікаў на кошт дзяржавы, якой кіруе тая-ж буржуазія—зямельная і прамысловая.

Нельга прайсьці моўчкі і міма другога факту, які сьведчыць аб банкруцтве польскага абшарніцтва.

якіх гарадох Польшчы. Лявіца рыхтуе інтэрпэляцыі ў Сойме, указываючы на ўчасьце ў П.П.П. цэлага раду паслоў правіцы, ваенных, усім вядомых генаралаў і вышэйшых чыноў паліцыі.

---

Новы „тымчасовы“ мін. унутр. спраў п. Солтан разаслаў да ваяводаў цыркуляр-інструкцыю, як трэба стасаваць рэпрэсію да прэсы. Цыркуляр даручае адміністратыўнай уладзе больш асьцярожна, але, калі ўжо патрэбна, дык запраўды дасягаюча мэты, прымяняць рэпрэсіі, парадзіўшыся перадусім з пракурорам, і не вясьці барацьбы з крытыкай ураду. Паглядзімо, як будзе гэта спаўняцца ў Вільні.

---

Зьліквідавана фактычна Міністэрства публічнага здароўя. Справы, падлягаўшыя яму, падзелены паміж мін. Працы і ўнутр. спраў.

### НЯМЕЧЧЫНА.

Выкрыты сьпісак (загавор) проці вышэйшыхураднікаў Нямечыны: ген. Сэакта, Кара і Лосова, маючы мэтай забойствам гэтым кіруючых асобаў выклікаць адсрочку працэсу ген. Людэндорфа і Гітлера.

### ЮГАСЛАВІЯ—ІТАЛІЯ.

Як італьянская, так сама і югаслаўская прэса падкрэсьлівае вельмі важнае значэньне дагавору паміж абодвыма краямі, які ня толькі выключае магчымасьць вайны ў гэтай частцы Эўропы, але павялічавае моц і трываласьць ня толькі Італіі і Югаславіі, але праз апошнюю і ўсей Мал. Антанты.

### ЯПОНІЯ.

Новае трасеньне зямлі ў Японіі нарабіла шмат бедаў: у Токіо парабіліся пажары, колькі цягнікоў паскідалася з насыпу, у аднэй Іокогаме 500 дамоў завалілася.

### ВЭНГРЫЯ.

Прадаўжаецца працэс вэнгэрскіх фашыстаў, з Улайнам на чале. У Лёндыне адчыніла працу асобая камісія Лігі Народаў, якая павінна апрацаваць варункі пазыкі для Вэнгрыі.

### С. С. Р. Р.

**У зьвязку з пашырэньнем граніцаў Радавай Беларусі да Менска прыехалі прадстаўнікі Гомельшчыны, Вітабшчыны і Смаленшчыны, для ўстанаўленьня усходніх граніцаў Радавай Беларусі.**

### ЛАТВІЯ—ЭСТОНІЯ.

Эстонскі міністар Ацкель у інтэрв'ю падкрэсьлівае важнасьць новага саюзу паміж Эстоніяй і Латвіяй, як першага наймацнейшага зародку Балтыцкай Антанты. Конфэрэнцыя ў Коўні—толькі запрошана, але яшчэ не апрацавана дакладна.

### КЛЯЙПЕДА.

Старшыня Лігі Народаў назначыў амэрыканскага фінансіста Дэвіса старшынёю камісіі для высьвятленьня кляйпэдзкай справы і дасяжэньня згоды паміж Літоўскім урадам і Конфэрэнцыяй Паслоў.

### АНГЛІЯ.

У троннай прамове кароль, на урачыстым паседжаньні Палаты Лёрдаў, сьцьвердзіў агульны пасьпех мірнага разьвязаньня спораў паміж народамі, прывітаў новыя камісіі для вырашэньня праблемы адшкадаваньняў, з учасьцем Амэрыкі; падкрэсьліў рашучыя імкненьні Англіі да ўзмацненьня аўтарытэту Лігі Народаў; выказаў надзею, што афганскі канфлікт будзе хутка зьліквідаваны; выказаў здаволеньне эканамічнай консалідацыі ўсей Імпэрыі на апошняй канфэрэнцыі дöміній і—трывогу перад цяжкім зьявішчам безрабоцьця. Урад мае намер, паміж іншым, склікаць канфэрэнцыю хлебаробаў, каб апрацаваць найлепшыя спосабы гаспадаркі і ўнармаваць плату с.-г. работнікам.

---

У дыскусіі над троннай прамовай лёрд Грэй сказаў моцную прамову, у якой сьцьвердзіў вельмі небясьпечная састаяньне Эўропы ў зьвязку з мілітарнай палітыкай Францыі. Нямеччына—ў заняпадзе. Расея — парыя паміж народамі. Малая Антанта—аружны саюз у сярэдняй Эўропе, створаны Францыяй. Састаяньне Эўропы падобна, як было ў 1914 г. перад вайной, толькі на мейсца Нямеччыны цяпер — Францыя.

Адзіны ратунак—у запраўды моцнай і аўтарытэтнай Лізе Народаў, якая мела-б моц аружна караць нарушыцеляў міру. Л. Кёрзон бараніў сваю палітыку энэргічнага паразуменьня з Францыяй спосабам... нотаў, на якія, толькі на жаль, п. Пуанкарэ не зьвяртаў увагі...

Мак-Дональд пакуль што каротка заявіў, што яго партыя ўнясе прапазыцыю аб тым, каб выразіць ураду рашучы вотум недаверыя.

Таксама ў часе спрэчак з паводу троннай прамовы ў Ніжняй Палаце Мак-Дональд рэзка крытыкаваў праграму ўраду, кажучы, што прамова—вязка фразаў. „Мы павінны будзем завясьці зусім іншы парадак, маючы на ўвазе запраўдныя інтарэсы Англіі і ўсяго сьвету“.

У сваей прамове Л. - Джордж перадусім перасьцярагаў проці штучнага незалежніцкага руху ў Надрэніі, які можа выклікаць агульна-эўрапэйскі ваенны пажар...

### ФРАНЦЫЯ.

Габінэт падаўся ў адстаўку.

---

Катастрафічны спадак франка вельмі трывожыць Францыю. П. Пуанкарэ рыхтуе скарпіёны валютным спэкулянтам, якіх ува ўсім вінаваціць і прэса...

---

У зьвязку са спадкам франка павялічаны на адну пятую частку ўсе падаткі.

# З газэт.

## Аб арыштах фашыстаў.

Вельмі цікавыя адносіны польскае прэсы да арыштаў фашыстаўскае арганізацыі П. П. П. Аказваецца, што... ніхто яе не бароніць! Нават „Gazeta Warszawska“ стараецца так павярнуць справу, каб адказнасьць за маральнае ўчасьце ў падгатоўцы дзяржаўнага перавароту ўзлажыць... на „лявіцу“! Паміж іншым, „Gaz. Warsz.“ перадрукавала сваю старую стацьцю (з 17 сьнежня 23 г.), у якой адгараджывала эндэцкую партыю ад П. П. П. і заяўляла, што ў гэнай арганізацыі

> „апякуном і тайным галоўным кіраўніком зьяўляецца выдатны генарал і лявіцовы палітык“,

ды што дзейнасьць П. П. П. — гэта работа правакатараў.

Вось-жа „Robotnik“ прыпамінае, што пасьля надрукаваньня гэнае стацьці ў „Dwugroszòwce“ і „Gaz. Warsz.“ (зараз пасьля 17 сьнежня) зьявілася ў гэных газэтах другая стацьця, аб якой цяпер яны не ўспамінаюць.

> Абодвы эндэцкія органы ў гэтай другой стацьці згодна адракліся ад сваіх абвінавачаньняў. Яны заявілі, што пераканаліся ў чыстасьці імкненьняў правадыроў П. П. П. Сьцьвердзілі, што П. П. П. ёсьць арганізацыя нацыянальная, і калі ў яе пападалі нейкія „лявіцовыя“ элемэнты, дык іх выкідалі. Адным словам, эндэцкая прэса вярнула П. П. П. „нацыянальную“ благанадзёжнасьць і дала сваё благаслаўленьне на далейшую дарогу. А цераз колькі дзён, як П. П. П. пачала працаваць напоўняўна, правіцовыя газэты на сваіх страніцах гасьцінна зьмясьцілі маніфэст Пагатовя, падпісаны панамі Пэнкоcлавскім, Горчыньскім і др. (—яны цяпер арыштаваны. *Рэд.*).

„Kurjer Polski“ з прычыны арыштаў фашыстаў зварачае ўвагу на тое, што польскае грамадзянства выяўляе поўную адсутнасьць дзяржаўнае мысьлі і дзяржаўнага ўзгадаваньня, што польскі народ за час няволі

> забыўся, што гэта такое свая дзяржава, свой урад, і найбольш сьпешнай справай для яго зьяўляецца ўзгадаваньне яго ў духу дзяржаўнага мышленьня,

што, як і ў першапачатных грамадзянствах, у Польшчы гэтая адсутнасьць дзяржаўнага змыслу

> выяўляецца імкненьнем да тварэньня дзяржавы ў дзяржаве, тварэньня пабочных урадаў побач з легальным.

І шкоднасьць работы П. П. П. газэта бачыць у тым, што такая дзейнасьць

> спыняе Польшчу на дарозе да праўнага ладу, а значыць да духовага зраўняньня з вялікімі дэмакратыямі Захаду.

Сацыялістычны пасол К. Чапіньскі зварачае ўвагу на ролю польскага духавенства ўва ўсей гэнай змове. У стацьці „Spiskujący Kler“, надрукаванай у газ. „Robotnik“, аўтар кажа:

> Калі чытаем у газэтах аб апошніх арыштах загаворшчыкаў з П.П.П., дык перадусім кідаецца ў вочы адно: выдатная роля, якую ў гэтым канспірацыйным руху іграў каталіцкі *клір*.
>
> Нас ня дзівіць, што знайшлося некалькі амбітных людзей, якія хацелі адыграць у Польшчы ролю Муссоліні; ня дзівіць і ўчасьце адстаўных генаралаў, пасівеўшых у царскай службе; ня дзівіць урэшце, што чарамі канспірацыі і хітра кіданымі патрыятычнымі лёзунгамі ўдалося абаламуціць даволі значную жменю моладзі. Але *клір* хрысьціянскі, каталіцкі, пабожны?—якое ў яго можа быць дзела ў арганізацыі, якая падгатаўляла *дзяржаўны пераварот*?!
>
> Загаворшчыкі зьбіралі аружжа і тварылі стратэгічныя пляны. Сваей прапагандай дэмаралізавалі войска і арганізавалі сваю паліцыю. Хацелі разваліць канстытуцыю і падгатаўлялі ў Польшчы паўстаньне... Не дарма—як пішуць газэты—моладзі ў часе прысягі казалі, што чорнае распяцьце, на якое ўскладалі рукі прысягаўшыя, было тое самае, якое перад сьмерцяй цалаваў *Невядомскі*...
>
> Дык як гэта?! Ксяндзы ў ролі хваліцеляў забойцаў? Што гэта значыць?!
>
> Арышты загаворшчыкаў з П. П. П. яшчэ раз выкрылі адну з хваробаў, што нішчаць Дзяржаву: не перабіраючую ў спосабах, заядлую, чорную работу рымскага кліру... Хітрыя ксяндзы канспіруюць у касьцельных падзямельлях з царскімі генараламі.

І ўсё гэта робіцца дзеля барацьбы з дэмакратыяй і—на карысьць манархіі ў Польшчы!

> Гэта — страшэнства. Да тысячы балячак і клапотаў Рэчыпаспалітае далучаецца яшчэ і гэтая падземная работа ў касьцёлах—у імя рэакцыі, у імя барацьбы з Рэспублікай і демакратыяй. Жывыя сілы разьвіваючагася народу павінны даць належны адпор гэным клерыкальным загаворшчыкам, так, каб зразумелі ўрэшце, што новая Польшча не дапусьціць да паўтарэньня пагібельнае ігры, за якую Польшча ўжо раз заплаціла—сваей незалежнасьцяй!

Ну, ня думаем, каб якая-хоч буржуазная ўлада ў Польшчы адважылася падняць руку

---

Факт гэты сьцьвярджае адзін спаміж іх самых —п. С. Ваньковіч на страніцах газэты „Słowo“.

Усе мы ведаем, як страшэнна адбіваецца агульны фінансавы крызіс, што перажывае Польская дзяржава, на матарыяльным палажэньні ўсіх работнікаў — ці то мястовых, ці сельскіх. У сувязі з гэтым, у сувязі з штодзенным памяншэньнем пакупное сілы польскае маркі, работнікам прыходзіцца кожны дзень бароцца за павялічэньне сваіх заробкаў, якія дагэтуль напалавіну меншыя, чымся былі перад вайной, хаця цэны выробляных імі тавараў (прыкладам мануфактуры) чуць не ўдвая вялікшыя за перадваенныя. Зусім натуральна, што сярод дворных парабкаў, як і сярод мястовых работнікаў, узьняўся рух да паляпшэньня варункаў працы. Яны маюць свой клясавы прафэсіянальны саюз і дабіліся таго, што паны ўсюды павінны плаціць парабкам згодна з такзванай *колектыўнай умовай*, робленай паміж цэнтральнымі арганізацыямі парабкаў і паноў.

Вось-жа п. Ваньковіч у газ. „Słowo“ зусім ясна заяўляе, што дворныя гаспадаркі ня могуць працаваць на такіх варунках, якіх жадаюць парабкі, што тады ім будзе немагчыма дзяржацца старых формаў, і абшарнікі будуць прымушаны аддаваць зямлю сваю сялянам ці ў запашку, ці на часьці. А гэта азначае, што абшарніцкая гаспадарка ня можа дагарнавацца да вымаганьняў сучаснага жыцьця, што ня толькі *форма вялікае зямельнае ўласнасьці*, але і *форма абшарніцкае гаспадаркі* ў сучаснай Польшчы *банкрутуе*, — і ні адна ні другая *самі па сабе* не апраўдываюцца з пункту гледжаньня інтарэсаў пануючае ў Польшчы клясы. Яны могуць істнаваць толькі коштам дзяржавы і, значыцца, працоўных масаў.

Ці-ж трэба давадзіць, што і забясьпечаньне местаў хлебам выпаўняецца абшарнікамі далёка ня так, як павінна выпаўняцца? Ды пачытайце толькі акуратна польскую левую прэсу, і там вы знойдзеце ў дастатачнай меры даных аб тым, як абшарнікі спэкулюць хлебам, як прыховываюць яго, каб падагнаць вышэй цэны, як у такія мамэнты пустуюць хлебныя біржы і як тады выяўляецца ў мястох нястача хлеба.... І тады ясна стане, што вялікая зямельная ўласнасьць і абшарніцкая гаспадарка банкрутуюць ня толькі з пункту гледжаньня інтарэсаў абшарніцтва, але і з пункту гледжаньня інтарэсаў працоўных масаў і ўсяе дзяржавы.

Гэтак тая разьвязка зямельнага пытаньня ў Польшчы, якая грунтуецца на падтрымліваньні дзяржавай вялікае зямельнае ўласнасьці і абшарніцкае гаспадаркі, змарнаваўшы на „кармленьне“ абшарнікаў вялізарныя капіталы, выяўляе сваё поўнае банкруцтва: бо нават стаючыся як-быццам *дзяржаўнымі камісарамі ў сваіх дварох* паны ня могуць, як сьлед, абслужываць патрэбы аправізацыі местаў і кідаюцца да спэкуляцыі хлебам.

Ясна, што сам ход жыцьця павінен будзе *прымусіць* Польскую дзяржаву да шуканьня другое разьвязкі зямельнага пытаньня — тое разьвязкі, аб якой мы казалі на пачатку. Такая разьвязка прынамся здаволіць у поўнай меры інтарэсы вялізарнае большасьці працоўнага насяленьня Польшчы і напэўна ня горш будзе здаваляць патрэбы местаў, чым цяпер здаваляюць абшарнікі. Такая разьвязка ў кірунку пераходу зямлі ў рукі працоўных масаў апраўдае сябе з пункту гледжаньня інтарэсаў гэтых масаў.

Але, каб да гэтае разьвязкі дайсьці, трэба, каб працоўныя масы ў Польшчы занялі пануючае палажэньне, каб сталіся пануючай клясай. Жыцьцё паказала нам, што ніводзін—нават найбольш паступовы—буржуазны ўрад не асьмеліваўся хоць болей-меней падыйсьці да такое разьвязкі. І сьвядомасьць гэта павінна сярод працоўных масаў малазямельнага і безьзямельнага сялянства Польшчы ўсіх нацыянальнасьцей збудзіць гарачае імкненьне да зьдзейсьненьня таго палітычнага лёзунгу, які польскія сацыялісты напісалі на загалоўку свайго галоўнага органу, але дзеля якога дагэтуль нічога не зрабілі: да стварэньня работніцка-сялянскае ўлады.

К. Фальневіч.

